Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 65 (116). Вільня, Субота 10 Верасьня 1927 г. Год III

# Сялянская Ніва

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Няроўнае змаганьне.

Ад маёвага перавароту ўсім дзяржаўным жыцьцём у Польшчы самастойна кіруе ўрад. Хоць Сойм, як заканадаўчы дзяржаўны орган, ня спыніў істнаваньня, аднак яго роля ў заканадаўстве да таго змалела, што бяз памылкі можна сказаць, што ў Польшчы ўжо парляманту амаль-што няма. Урад за подпісам Прэзыдэнта выдае законы ў форме дэкрэтаў, урад праводзе сам іх у жыцьцё, а Сойму часам падсоўвае на разгляд справы трэцяраднага значэньня і забараняе Сойму брацца за справы важнейшыя. Сойм да таго чуецца пакрыўджаным і бязсільным, што баіцца паставіць востра пытаньне аб абароне сваіх правоў. Такім чынам, паўтара месяца таму назад урад спыніў працу Сойму, а паслы, замест дамагацца адчыненьня сэсіі, паехалі сабе на летні адпачынак. Толькі пасьля паўтара месяца, хоцькі-ня-хоцькі, некаторыя польскія клюбы падпісалі заяву да прэзыдэнта аб склiканьні сэсіі Сойму.

Такім чынам, згодна з канстытуцыяй, на другім тыдні мае адбыцца ўжо першае паседжаньне надзвычайнай соймавай сэсіі. Самыя паседжаньні Сойму зрабіліся ўжо мала цікавымі для грамадзянства, бо дагэтуль, за ўвесь час свайго істнаваньня, польскі Сойм нічога добрага для працоўных гушчаў не зрабіў, а ў апошнія часы, таксама нічога ня можа зрабіць добрага для сялянства і работнікаў, бо з аднаго боку польскі Сойм складаецца пераважна з абшарнікаў, капіталістых, буржуяў і нацыяналістых пэпээсаў (беларускія і ўкраінскія паслы знаходзяцца ў меншасьці), а з другога боку— Сойм нічога ня можа зрабіць, бо ўрад яму не дазваляе. Вось чаму надзвычайная сэсія Сойму мала цікавіць працоўныя масы, мала цікавіць і Беларусаў, як працоўных вёскі і места.

Цяперашні польскі Сойм настрояны варожа да беларускага адраджэнскага руху і затым выдаў слаўныя языковыя ўставы, замест радыкальнай зямельнай рэформы, прыняў уставу аб парцэляцыі і асадніцтве і інш. Польскія ўрады, як хіена-пястаўскія, так і памаёвыя таксама, баяцца разросту беларускага руху і затым не даюць беларускіх школ, ня думаюць аб перадачы абшарніцкай зямлі ў рукі сялян-Беларусаў, не даюць Беларусам ніякіх пазык ні дапамог на адбудову і г. д. Такі стан рэчаў стварыў тое, што мы адзінакава непрыязна заглядаемся, як на польскі Сойм, так і на польскі ўрад і затым у спрэчках і непаразуменьнях між Соймам і ўрадам ня прыймаем дзейнага ўдзелу. Затое некаторыя польскія партыі, асабліва эндэцкія (польскія нацыяналісьчна-шовіністычныя буржуі) прыймаюць найбольш гарачы ўдзел у барацьбе Сойму з урадам. Выццам у абароне дэмакратычных парляментскіх прынцыпаў, эндэкі вядуць барацьбу з цяперашнім таксама буржуазным урадам — урадам капіталістых і абшарнікаў, а фактычна хочуць, каб улада ў Польшчы перайшла ў рукі польскіх ксяндзоў, якія запоўняюць рады эндэцкае партыі. У гэтай барацьбе дагэтуль выключна адзін урад быў пераможцам, а Сойм аставаўся пакрыўджаным. Цяпер, на новай склiканай сэсіі выявіцца, на сколькі эндэкі чуюць сябе сільнымі і на сколькі падымуць голас проці ўраду. Таксама выявіцца, як урад Пілсудскага будзе рэагаваць на выступленьні большасьці Сойму. Тут магчымыя дзьве дарогі, або Сойм адкажыцца ад сваіх прэтэнсыяў на перагляд некаторых дэкрэтаў Прэзыдэнта і перастане займацца законамі, якія не запрапанаваны ўрадам, або якраз захоча выказацца проці ўраду і будзе разглядаць проціўрадовыя праекты законаў. У першым выпадку ўсё астанецца пастараму, так, як было дагэтуль, г. зн., Сойм астанецца паслушным выканальнікам волі ўраду. У другім выпадку ўзьнікне ізноў канфлікт між Соймам і ўрадам. Найскарэй трэба спадзявацца гэтага апошняга. Няма сумліву, што ў гэтым канфлікце пераможцаю таксама выйдзе ўрад, бо іначай ня трэба было ў 1926 годзе ісьці з войскам на мост і страляць у Бэльвэдэр. Сойм ня мае войска і затым ня будзе магчы сілай фізычнай пераняць улады ў свае рукі. Астаецца для Сойму адна найвыгаднейшая дарога—разьвязацца сваей уласнай пастановай; але і ў гэтым урад можа выперадзіць Сойм і разьвязаць яго дэкрэтам Прэзыдэнта. Пасьля гэтага барацьба яшчэ больш завострыцца пры выбарах у новы Сойм.

Падчас выбараў кансэрватыўны польскі ўрад будзе весьці барацьбу з эндэцкай буржуазіяй і, ёсьць ведама, з нацыянальнымі меншасьцямі, а ўвесь час будзе падтрымоўваць рожныя „Вызваленьня“, хлопскія партыі і пэпээсаў ну і абшарнікаў. Адно толькі дзіўна, чаму гэта ўрад буржуазны памагае і будзе памагаць левым польскім партыям і абшарнікам, а змагаецца з польскімі эндэкамі?!

Адказ ясны: таму, што гэтыя партыі паслухмяна выконваюць волю цяперашняга ўраду, а эндэкі імкнуцца пераняць у свае рукі ўладу, г. зн., скінуць м. Пілсудскага. Можна бяз рызыкі сказаць, што на выбарах эндэкі праіграюць.

**А. Дэмакрат.**

## Аб'яднаньне нацыянальных меньшасьцяў і Беларусы.

Усе тыя народы, якія жывуць у дзяржаве і не зьяўляюцца пануючай нацыяй, называюцца меншасьцю.

І вось, каб лепей бараніцца ад уціску пануючых народаў, меншасьці з усіх дзяржаваў Эўропы рашылі аб'яднацца. У мэтах гэтага ў 1925 годзе адбыўся першы, у 1926 другі, а нядаўна сёлета—трэці зьезд нацыянальных меншасьцяў. На сваіх зьездах нацыянальныя меншасьці прынялі статут згодна якога, кожная нацыянальная меншасьць павінна задэкляраваць лёяльнасьць (прыхільнасьць) да тэй дзяржавы ў якой жыве і, дамагаючыся направы сваіх нацыянальна-культурных правоў, не павінна парушаць тэратарыяльнае пытаньне.

Мы Беларусы, жывучы пад польскім панаваньнем, становім таксама меншасьць, аднак-жа на сваёй роднай беларускай зямлі мы становім большасьць, дык ясна, што з аб'яднаньнем нац. меншасьцяў нам не падарозе. Дзеля гэтага самага, Беларусы, будучы прысутнымі на зьездах, кожны раз аставаліся толькі наглядчыкамі.

Сёлета, як ужо ведама, быў на зьездзе пасол Рагуля, які, паміма справаздачы дэлегаваўшаму яго Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, быў ласкавы ўдзеліць Рэдакцыі „Сял. Нівы“ некалькі слоў аб сваей прысутнасьці на зьездзе.

Па прыездзе ў Жанэву пасол Рагуля разам з прадстаўнікамі ад Украінцаў зьвярнуўся да сэкрэтарыяту аб'яднаньня, дзе пасьля нарады высьнілася, што плятформа аб'яднаньня не зьмянілася, дык і ясна, што ўваход Беларусаў у аб'яднаньне н. м. астаўся адкрытым. Аб'яднаньне ня хоча парушаць тэрыторыяльнага пытаньня, а Беларусаў не задаваляе вырашэньне культурных справаў.

На самым зьездзе паўстаў канфлікт, які закончыўся тым, што Палякі, якія жывуць у Нямеччыне выступілі з аб'яднаньня, а яны то і зьяўляліся галоўнымі праціўнікамі недапушчэньня Беларусаў ў аб'яднаньне нацыянальных меншасьцяў. Пасьля гэтага сэкрэтарыят аб'яднаньня запрапанаваў паслу Рагулі ўвайсьці ў аб'яднаньне, дакляроўваючы перагледзець і, па магчымасьці, паправіць статут. Ад гэтакае камбінацыі пас. Рагуля адмовіўся дзеля таго, што ня меў, ў даным выпадку, інструкцыяў ад інстытуцыі, якая дэлегавала яго.

## Асуд генэрала Жымерскага.

Ваенны Акруговы Суд у Варшаве 6 г. верасьня выдаў асуд а справе ген. Жымерскага, які вінаваціўся ў службовых надужыцьцях. Згодна гэтага асуду ген. Жымерскаму прыдзецца адсядзець 5 гадоў катаржнага вастрогу. Акрамя таго ген. Жымерскі пазбаўлены правоў, званьня і выдалены з войска. Ген. Жымерскі зрабіў шкоды польскай дзяржаве на 150.000 даляраў.

*Сяляне! Арганізуйцеся, у арганізацыі—сіла!*

# Да нас пішуць.

### Вестні з Валыні.

(Жалудзец, Крэменецкага пав.).

У жалудкоўскай царкве служыць пасярэднікам паміж Богам і людзьмі сьвяшчэньнік а. Ф. Б—кі, які ня гледзячы на тое, што цяжка жывецца яго парахвіянам, замест таго, каб падзяляць гаротнасьць сваіх парахвіян, якія стогнуць пад цяжарам дзяржаўных падаткаў, ён сам яшчэ накладае падаткі. Гэтыя падаткі выяўляюцца ў тым, што а. Б—кі, на таго, хто ня ўмее малітвы „Отчэ Наш“, накладае штрафу 20 зл., хто ня знае дзесяць запавядзеў—30 зл., хто ў належны час не адбудзе споведзі, дык а. Б—кі штрафуе таго 100 зл. і карае 100 паклонамі. Хто не заплаціць гэтакага штрафу і не адбудзе кары, дык а. Б—кі, пры першай магчымасьці, змусіць заплаціць. Ведама, ў тэй ці іншай справе амаль-што кожны чалавек змушан зьвяртацца да сьвяшчэньніка: усяк здараецца—людзі родзяцца, жэняцца і ўміраюць і ўсё гэта не абходзіцца без духоўніка. Здараецца і гэтак, што а. Б—кі заўважыўшы каго-небудзь у шапцы каля царкоўнага гмаху, кідаецца з кулакамі, не саромячыся даць па вуху.

Пане Рэдактар, прашу параіць, што трэба зрабіць, каб ад гэтага пастыра звольніць царкву. Парахвіяне зьярталіся да ваяводы, да пракурора і да мітрапаліта і нічога не памагае. У мітрапалітавай кансысторыі служыць сваяк а. Б—кага, які яго падтрымоўвае.

*П. Л.*

**Ад Рэдакцыі:** Гэтую вестку падае сябра Беларускага Сялянскага Саюзу—Беларус, якому выпала жыць на Украіне.

Запраўды цікавая вестка!

Адносна таго, як пазбыцца „добрага“ пастыра, дык лічым, каб наш сябра параіў парахвіянам зьвярнуцца да ўкраінскіх паслоў з просьбаю аб іх інтэрвэнцыі ў мітрапаліта.

### Вось як гавораць.

(Лідчына).

Вельмі характэрна, што польскія эндэкі сваімі легэндарнымі абяцанкамі беларускаму народу пускаюць туман у вочы, аб тым, што яны далі шмат прывілегіяў на адчыненьне беларускіх школаў. І яшчэ пускаюць чуткі, што нават польскія прыватныя школы не карыстаюцца з такіх правоў, якія прадбачуцца беларускім школам.

Аднаго разу, праяжджаючы цягнікам, прыпадкам прышлося ў вагоне пагутарыць з няведамым мне панком. Вядомая рэч, паны заўсёды, калі толькі праяжджаюць праз „Усходнія Крэсы“, дык вядуць гутарку аб Беларусах, аб якіх яны вельмі турбуюцца.

Дык вось, гутарачы, закранулі аб беларускім нацыянальным пытаньні, да чаго і я ўмяшаўся, а пасьля пачалі гутарыць аб школе, на чым і затрымаліся. Дык адзін з панкоў тутака з поўнай экстазай заінтанаваў: „więc, zamiast prywatnych polskich gimnazjum, będzie, albo już jest, upaństwowione białoruskie gimnazjum w Wilnie i jeszcze narzekają...“ І яшчэ далей, пачаў „пекнымі фразамі баіць“, што беларускі народ не „практычны“, што змаганьнем за сваю родную школу і сваю родную мову, Беларусы сябе толькі губяць і дзеля гэтага ніякай карысьці мець ня будуць. Я пытаюся чаму? — „bo to jest chamska mowa i nigdzie posady nie otrzymają“. Я стараюся яму вытлумачыць, што мы павінны, як і кожны народ, шанаваць сваю родную мову і вучыцца на ёй, бо яна для нас ёсьць—карысная і зразумелая. Ганьба таму чалавеку, хто цураецца роднага слова. Гэты панок, як казёл упарты, пярэчыць сваё: „przecież, po ukończeniu polskiej szkoły, natychmiast można otrzymać posadę“.

Цікава, што далей гэты вельможны панок нагаварыў-бы, але зараз затрымаўся цягнік і ён выйшаў з вагону.

„Дзякуй“, табе панок, за прыгожыя і салодкія слоўцы, ведаем мы і без вашых абяцанак, што вы нам можаце „добрае“ зрабіць і даць пасаду за жалезнымі кратамі... Але, як кажа народная прыказаа: „слухай людзей і свой розум мей“. Як-бы вы не стараліся нас адурманіць, усё-ж такі, мы Беларусы, паміма вашых перашкод, якія стаўляеце нам на кожным кроку, будзем станоўка змагацца за сваё роднае слова і за сваю родную беларускую школу, і... дамагацца роднае пасады на сваёй зямлі...

Б — у с.

### Польскае „Я“.

Кожнаму ўжо добра ведама, што як толькі які Паляк прыедзе да нас—на Беларусь на службу, дык стараецца як найхутчэй паказаць сваё польскае „ja“. Пара тыдняў таму назад пасяліўся, на пошце ў Браслаўі, нейкі монтар тэлеграфу і тэлефону. Ён-жа, хочучы паказаць сваё польскае „я“, прычапіўся да жураўля, каторы ў працягу 2-х гадоў стаяў над студняй браслаўскага жыхара—Ражноўскага. На няшчасьце Ражноўскага, ля ягонай студні над жураўлём, таксама ў працягу больш як 2-х гадоў віселі і цяпер вісяць тэлеграфныя і тэлефонныя дроты. Монтару не падабалася гэта, дзеля чаго прыказаў Ражноўскаму зрэзаць гэны жуўравель. Што за прычына гэтаму — ня ведама. Гавораць розна. Адны кажуць, што монтар баіцца, каб „журавель“, як будзе вылятаць ў цёплую старонку, размахнуўшыся хвастом не параваў дроты, а другія, што быццам журавель слухае прытуліўшы вуха да дротаў дзе, хто, што перадае па тэлефону. Ці можа монтар баіцца, каб журавель не зрабіўся „шпіком“?! Усё можа быць!...

Кароль Цыбук,

# Нэндза.

### (Народная казка).

Жылі ў розных вёсках два браты: адзін быў вельмі багаты, Сымон, а другі бедак — бедны Тамаш. Аднойчы неяк у сьвята, пашоў бедны брат да багатага ў госьці (відаць сувязі ня трацілі). Прышоў прывіталіся, пагаварылі, а тагды бедны брат і кажа багатаму: пачастуй ты мяне, браток, гарэлачкай-сівушкай.

— Вось у бочцы — адказаў багаты брат беднаму, — пі колькі хочаш. Бедак напіўся, — у бочцы была вада. І з гэтым пашоў бедак да сваей курнай хатанькі... Ідзе і пяе сабе песяньку, аж-но чуе, што за ім таксама нехта падпявае...

Аглянуўся бедак навакола, ня відна нікога... Спыніўся ды пытае: хто гэта пяець са мною?

— Гэта я — нешта адказала.

— Дык хто-ж гэта ты?

— Я — Нэндза, пачуўся тагды ўжо адказ.

— А куды-ж ты ідзеш, — пытаецца бедак?

— Я, — гавора Нэндза, — іду з табою, ды наагул заўсёды, увесь час ад цябе не адстаю, цябе не пакідаю...

Задумаўся бедак ідучы далей — што рабіць? Сужыцьцё з Нэндзаю — рэч зусім благая, але як яе адагнаць?!

І калі гэтак разважаў бедак, дык прышла да яго галавы сьветлая касулька — прамычок думкі.

— Як прыду дамоў, — гавора бедак, дык я памру.

— Ну дык што-ж, — адказала Нэндза, — і я з табою ў труну лягу.

Прышоўшы дамоў бедак адразу стаў рабіць труну, а як зрабіў, дык кліча Нэндзу.

— Нэндза, а Нэндза, дзе ты!

— Я тут пры табе — пачуўся голас.

— Дык лезь у труну, а то астанешся, — гавора бедак!

Нэндза відаць была вельмі опрытная, бо бедак хутка пачуў словы:

— Я ўжо ў труне, гатова.

— Ну, як гатова, дык добра.

Бедак зачыніў труну, зваліў яе сабе на плечы і панёс на могілкі каб пахаваць. На могілках, бедак труну з Нэндзаю закапаў і добра заваліў на векі вечныя...

Ад гэтай пары бедакова жыцьцё зьмянілася і ўсё пашло па лепшаму. Пачаў ён багацець, весялець і разумнець. А па меры яго багацьця і людзі сталі яму зайздросьціць. Не ўхіліўся ад гэтага зла і багаты брат „бедака“, Сымон.

Вось аднойчы неяк і пытае Сымон у Тамаша — якім спасобам ты разбагацеў?

Тамаш прызнаўся і папарадку расказаў брату ўсё, як належыцца.

У Сымона адразу зарадзілася чорная думка, выратаваць Нэндзу, каб яна ізноў страсянула яго брата. Дазнаўшы месца дзе была пахавана Нэндза, Сымон пашоў, выкапаў труну ды гавора — Нэндза, а Нэндза, ты тут! — Т-у-у-у-т... ледзь прагаварыла Нэндза.

— Ну, дык вылазь з труны ды ідзі зноў да свайго гаспарада!

— Ой не, — кажа Нэндза, — я цяпер ужо буду з табою, а то мой даўнейшы гаспадар амаль-то не замарыў мяне... Дзякую табе, што ты выратаваў, дык я ўжо лепш з табою буду.

Агарнула трывога Сымона, але нічога не парадзіш... сам вінават.

З тэй пары багаты стаў бяднець, а праз нейкі час зусім дайшоў да галіты... Нэндза давяла...

Прабаваў багаты, каб якколечы пазбыцца бяды, але-ж ніяк яму гэта не ўдавалася, бо Нэндза, навучаная абманам Тамаша, была асьцярожнаю і ніякіх нагавораў свайго другога гаспадара ня слухала. За ўсё сваё няшчасьце Сымон вінаваціў свайго брата, Тамаша, дык рашыў адамсьціцца.

Пераходзячы кладкаю праз рэчку, карыстаючы з нагоды Сымон хацеў кінуць брата ў раку, але-ж рыхтуючыся да гэтага аступіўся і паляцеў сам у халодныя хвалі... Разумеецца, Нэндза таксама.

Я. Аніськовіч.

# НАШАЯ ПОШТА.

**Я. Закінутаму:** Матэрыялы атрымалі. Па магчымасьці зьмесьцім.

**Гр. Піваварчыку:** Думаем, што Вы ўжо даўно знаёмы з „Сял. Нівай“, дык пасылаць пробны нумар ня лічым патрэбным. Газэту будзем пасылаць па атрыманьні падпіскі.

**Ул. Нізюльку:** Газэту вышлем пасьля атрыманьня падпіскі.

**Л. Краўчонку. Сьлязьніку Сьцяпану** — Газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Аніськовіча Ів., Ціпулёнка Мік.—па 2 зл.



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.